Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 526 ЛІСТАПАД 2006 г.
Год выданьня 57

# Старшыня Рады БНР ва Ўсходняй Эўропе

На працягу двух тыдняў у кастрычніку Івонка Сурвілла завітала ў краіны Балтыі і ў Польшчу. Яна спатыкалася з прадстаўнікамі ўладаў, мясцовым беларускім грамадзтвам і брала ўдзел у Вільні ў Днях беларускай і літоўскай культуры, а ў Беластоку ў 50-м юбілеі газэты "Ніва". Пра яе візыты паведамляла Радыё Свабода (з чыіх перадачаў выкарыстаныя вытрымкі) і мясцовыя сродкі інфармацыі. Суправаджаў Старшыню ў Эстоніі й Летуве заступнік Старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык.



**На здымку: Зінаіда Клыга, Івонка Сурвілла, міністар замежных справаў Эстоніі Урмас Паэт, Сяргей Навумчык.**

## Эстонія

"5-га кастрычніка Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла выступіла ў прамым эфіры праграмы "Тэрэвізіён" – у адной з найбольш рэйтынгавых праграмаў эстонскага тэлебачаньня. Інфармацыя пра візыт кіраўніка ўраду ў выгнаньні падавалася ўсімі вядучымі сродкамі масавай інфармацыі Эстоніі."

"Падчас сустрэчы зь міністрам па справах нацыянальных меншасьцяў Паўлем Эрыкам Румма абмяркоўваліся праблемы беларускай дыяспары ў Эстоніі. Спадара Румма, дарэчы, добра ведамага літаратара, цікавілі факты ліквідацыі ў Беларусі беларускага школьніцтва, перасьлед Саюзу пісьменьнікаў.

Івонка Сурвілла была таксама прынятая міністрам замежных справаў Эстоніі Урмасам Паэтам. "Мы ўсяляк падтрымліваем дэмакратычныя сілы Беларусі і апазыцыю, а таксама беларускі народ, даючы яму магчымасьць убачыць, як дзейнічае дэмакратычны дзяржаўны парадак. Добрым прыкладам гэтага зьяўляецца навучаньне 10 беларускіх студэнтаў у эстонскіх ВНУ", – сказаў міністар (паводле агенцтва БелаПАН).

Разам з Старшынёй Рады БНР на сустрэчах зь сябрамі эстонскага ўраду была адна зь кіраўнікоў Згуртаваньня беларускай культуры ў Эстоніі, сябра Рады БНР Зінаіда Клыга.

Увечары Івонка Сурвілла ўзяла ўдзел у круглым стале, прысьвечаным праблемам беларуска-эстонскіх узаемадачыненьняў, а таксама сустрэлася з актывістамі беларускай дыяспары ў Эстоніі."

## Летува

7-8-га кастрычніка ў Вільні Івонка Сурвілла ўзяла ўдзел у Днях беларускай і літоўскай культуры. "Гэтае мерапрыемства арганізаванае Таварыствам Беларускай Культуры ў Літве пры падтрымцы прэзыдэнта Валдаса Адамкуса і прысьвечанае 100-годзьдзю заснаваньня газэты "Наша Ніва".

У сваім прывітальным слове Старшыня Рады БНР адзначыла, што менавіта нацыянальную культуру працўнікі неза-

Заканчэньне на бачыне 2

# АБВЕСТКА

Рэдакцыя газэты "Беларус" пачынае падрыхтоўку да выданьня літаратурнага дадатку да газэты. Гэта будзе літаратурны зборнік мастацкіх твораў у выглядзе "тоўстага" часапісу.

Зьмясьціць свае творы ў зборніку маюць права ўсе аўтары, якія пішуць па-беларуску ў самых розных літаратурных накірунках. Адзінае патрабаваньне – аўтары павінны жыць па-за межамі Беларусі. Ёсьць задума выдаваць такі зборнік штогод.

Плануемы час выхаду ў сьвет гэтага зборніка – сярэдзіна наступнага 2007 году.

Свае творы аўтарам найлепш дасылаць у рэдакцыю электроннай поштай на адрас ***hazetabielarus@att.net*** У выключных выпадках, калі аўтары ня маюць доступу да сусьветнага сеціва, творы можна даслаць поштаю запісанымі на СК ці KVK альбо надрукаванымі на паперы на адрас рэдакцыі:

***BIELARUS / P. O. Box 3225 / Farmingdale, NY 11735 USA***

Тэксты пажадана пісаць тарашкевіцай. Творы напісаныя наркомаўкай, у зборніку будуць надрукаваныя тарашкевіцай.

Кожнаму аўтару, хто вырашыць даслаць творы для зборніка, пажадана таксама даслаць свой невялікі партрэтны здымак і кароткую аўтабіяграфію і, калі захочуць, дадатковую інфармацыю пра сябе, якую яны хацелі-б паведаміць сваім чытачам.

Апошні тэрмін для дасылкі твораў 31 травеня 2007 году.

Пасьля выхаду зборніка ў сьвет кожны аўтар атрымае адзін асобнік зборніка бясплатна. Аўтары пры жаданьні таксама будуць мець магчымасьць замовіць дадатковую колькасьць асобнікаў па сабекошту, які будзе паведамлены ім пазьней.

Ганарараў аўтарам рэдакцыя "Беларуса", нажаль, выплочваць ня можа, бо не зьяўляецца камэрцыйным выданьнем, а існуе выключна дзякуючы падтрымцы падпісчыкаў і ахвярадаўцаў.

Ці вы пачатковец, які толькі адчуў у сабе здольнасьць да прыгожага пісьменства, ці ўжо вядомы літаратар, але не прапусьціце ўнікальную магчымасьць данесьці свае творы да чытачоў.

Далучайцеся да нашага праекту!

З пытаньнямі кантактуйце рэдакцыю. Жадаем посьпехаў!

# Навуковая канфэрэнцыя ў Атаве

У Атаўскім унівэрсытэце 21 верасьня прайшла навуковая канфэрэнцыя "Беларусь сёньня". Яе арганізатарамі былі Міністэрства замежных справаў Канады і катэдра Украінскіх навук Атаўскага унівэрсытэту. Трэба адзначыць, што падобная канфэрэнцыя ў сталіцы Канады праводзілася больш за 30 гадоў таму. Канфэрэнцыю адкрыў загадчык катэдры Украінскіх навук, прафэсар Дамінік Арэль (Dominique Arel), які зазначыў важнасьць правядзеньня такой канфэрэнцыі з улікам сучаснай сытуацыі ў Беларусі. У першай палове дня адбылася сэсія "Сытуацыя ў Беларусі пад прэзыдэнтам Лукашэнкам: да і пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у сакавіку 2006 году".



Сэсію пачаў з дакладу і затым вёў прафесар Давід Марплз (David Marples) з Унівэсытэту Альберты, Канада. Прафэсар Марплз аўтар 11 кнігаў пра Чарнобыль і сталінізм ва Украіне,

Заканчэньне на бачыне 2

# Івонка Сурвілла ва Ўсходняй Эўропе

*Працяг з бачыны 1*

лежнасьці Беларусі абралі прыярытэтам на зьнішчэньне. Прывітаньне беларусаў Аўстраліі зачытаў старшыня беларускай суполкі ў Мэльбурне Янка Барысевіч, ад імя беларусаў Латвіі выступіла Тацьцяна Казак, ад імя беларусаў Брытаніі слова мелі сябры Рады БНР Павал Шаўцоў і Лёля Міхалюк."

"У канфэрэнцыях і дыскусіях, якія адбываюцца ў межах дзён беларускай культуры ў Вільні, бяруць удзел паэты Генадзь Бураўкін і Сяргей Законьнікаў, празаікі Вольга Іпатава і Алесь Пашкевіч, мастакі Мікола Купава і Алесь Пушкін, бард Віктар Шалкевіч, публіцыст Аляксандар Старыкевіч, гісторык Алег Трусаў акадэмік Радзім Гарэцкі. Свае выступы даслалі Зянон Пазьняк зь Нью-Ёрку, Янка Жучка з Бэльгіі, Анатоль Грыцкевіч зь Менску. Сярод прысутных Старшыня ЗБС Бацькаўшчына Алена Макоўская, Юрка Станкевіч з Чэхіі, Ігар Шаховіч з Калінінграду.

У імпрэзах бралі ўдзел літоўскія парлямэнтары Вацлаў Станкевіч і Ёнас Чэкуоліс, кіраўнік дэпартамэнту нацыянальных меншыняў пры літоўскім урадзе Антанас Пятраўскас. У ліку беларускіх удзельнікаў былі Станіслаў Шушкевіч, Ірына Казуліна.

У часе дыскусіяў абмяркоўвалася магчымасьць выданьня беларуска-літоўскага і літоўска-беларускага слоўнікаў, кніг па гісторыі Літвы, зробленых літоўскімі аўтарамі па-беларуску, і гісторыі Беларусі, напісанай беларусамі па-літоўску, выданьняў па гісторыі Вільні і Віленскага ўнівэрсытэту.

Намесьнік Хведара Нюнькі – Старшыні Таварыства Беларускай Культуры ў Літве Валеры Місюк падкрэсьліў, што галоўная мэта імпрэзы – культурная, хаця ў дыскусіях узьдымаліся пытаньні сацыяльныя і палітычныя.

Завяршаюцца Дні беларускай і літоўскай культуры адкрыцьцём мэмарыяльнай шыльды на доме, дзе жыла Натальля Арсеньнева."

## Латвія

10-га кастрычніка Старшыня Рады БНР наведала сталіцу Латвіі Рыгу. Падчас візыту Івонка Сурвілла мела сустрэчу з намесьнікам дзяржсакратара Міністэрства замежных справаў Латвіі Эдгарам Скуя. У гонар старшыні Рады БНР МЗС Латвіі ладзіла абед.

Івонка Сурвілла наведала таксама Рыскую беларускую асноўную школу, дзе адбылася сустрэча з настаўнікамі.



*Івонка Сурвілла з настаўнікамі беларускай школы ў Рызе.*

Увечары ў камінным залі дома Асацыяцыі нацыянальна-культурных таварыстваў Латвіі падчас сустрэчы зь сябрамі Латвійскага Таварыства Беларускай Культуры "Сьвітанак" яна распавяла аб дзейнасьці Рады БНР, а таксама аб жыцьці беларускай дыяспары."

## Польшча-Беласток

### 50-я ўгодкі беластоцкай газэты «Ніва»

13-га кастрычніка Старшыня Рады БНР прыехала ў Беласток у суправаджэньні сябры Прэзыдыюму Рады БНР Вячкі Станкевіча. Сустракалі іх Яўген Вапа, галоўны рэдактар «Нівы», які быў галоўным арганізатарам гэтай слаўнай урачыстасьці, і ягоны заступнік Віталь Луба. Адразу – інтэрвію на беластоцкім радыё і пазьней на Радыё Рацыя. У канцы першага дня навукова-папулярнай канфэрэнцыі Івонка Сурвілла мела змястоўную размову з Аляксандрам Мілінкевічам, які спэцыяльна застрымаўся там, вяртаючыся ў Беларусь. На заўтрашні дзень – працяг канфэрэнцыі, у якой узялі ўдзел разам 20 выступоўцаў, як мясцовых, так і замежных, на розныя тэмы вакол «Нівы». На ўрачыстым закрыцьці прамовіла Старшыня Рады, віншуючы «Ніву», ейных супрацоўнікаў і прысутных гасьцей. Яна папярэдзіла аб пагрозе страты незалежнасьці Беларусі і заклікала да агульнага супраціву. Апрача яе выступіў віцэ-маршалак польскага Сойму і шэраг мясцовых дзеячоў. Прысутнічалі на ўрачыстасьці мясцовыя палітыкі і дэпутат Эўрапарлямэнту Барбара Кудрыцка.

У дзень адпачынку беластоцкія актывісты Міраслаў і Бася Пякарскія арганізавалі для замежных гасьцей матарызаваную вандроўку па Беласточчыне. Адведалі аднаўлены гістарычны манастыр у Супрасьлі і майстэрню сусьветна вядомага мастака Лёніка Тарасэвіча ў Валілах. Тут была прыемная несладзяванка – мастак Лёнік зладзіў нефармальную рэтраспэктыву сваіх твораў для мастачкі Івонкі. Вандроўка сканчылася візытам у Музэй і Асяродак Беларускай Культуры ў Гайнаўцы і адведаньнем беларускай школы ў Беластоку разам із знаёмствам з найбольш актыўнай настаўніцай Алінай Бурылла-Ваўранюк.

*Заканчэньне на бачыне 3*

# 50-годзьдзе беластоцкай "Нівы"

1956 год. Час хрушчоўскай адлігі ў Савецкім Саюзе і падпарадкаваных яму краінах. У Польшчы ўлады даюць дазвол на выданьне беларускага тыднёвіка. Газэта бярэ сабе назоў "Ніва", карыстаючыся гістарычным прыкладам віленскай "Нашай Нівы" і ўлічваючы пераважна сялянскае насельніцтва беларускай Беласточчыны.

Адзначалі юбілей са спазьненьнем, бо ў сакавіку, калі споўнілася 50 гадоў ад першага нумару, судовы працэс над "Нівай" яшчэ не завяршыўся. Скончыўся ён некалькі месяцаў пазьней поўным апраўданьнем дзейнасьці кіраўніцтва "Нівы". Судзьдзя ў сваім заключным слове ня толькі прызнаў няправільным абвінавачваньне, але нават ня бачыў падставаў для пачатку самога працэсу.

Адзначаўся юбілей ў днях 13-14 кастрычніка ў найбольшым і мадэрным гатэлі Беластоку. Дзяліўся ён на тры асноўныя часткі: двухдзённая канфэрэнцыя, канцэрт з прывітаньнямі й урачыстая вячэра. У навукова-папулярнай канфэрэнцыі ўзялі ўдзел беларускія літаратары Польшчы, замежныя госьці як зь Беларусі, гэтак і з сусьветнай дыяспары.

Прысутнічаў на канфэрэнцыі першы рэдактар "Нівы" Георгі Валкавыцкі, які ня толькі паставіў газэту на ногі, але кіраваў ёю больш трыццаці гадоў, аж да 1987-га году. Зь беластоцкіх выступалі з дакладамі Алег Латышонак, Сакрат Яновіч, Ян Чыквін, Яўген Міраповіч, Ганна Кандрацюк, Віталь Луба. З Варшавы прыехалі з дакладамі Ніна Баршчэўская і Юры Туронак, а зь Беларусі Сяргей Чыгрын, Барыс Пятровіч (Сачанка) Вінчук Вячорка, Алесь Бяляцкі, Паліна Сьцепаненка, Алена Макоўская ды Вячка Станкевіч з ЗША. Сярод замежных гасьцей былі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, Хведар Нюнька зь Летувы, Тацьцяна Казак з Латвіі й Лёля Міхалюк зь Вялікабрытаніі.

А даклады былі самыя розныя, ад гістарычных пачаткаў да сувязяў зь Беларусьсю і дыяспарай ды больш інтрыгуючых, як прыкладам "Ніва" ў партыйных дакумэнтах". Вялікую ўвагу прыцягнуў даклад Ганны Кандрацюк пра сустрэчы дзіцячай часткі "Нівы" – "Зоркі" зь дзецьмі Беласточчыны.

Канфэрэнцыя скончылася мультымэдыйнай прэзэнтацыяй "Беларусы Беласточчыны", падрыхтаванай Ілонай Карпюк, цяперашня Старшынёй Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў (БАС).

Галоўны рэдактар "Нівы" Яўген Вапа зрабіў прэзэнтацыю новага альбому "Ніва: час і людзі 1956-2006". Гэтае люксусовае выданьне стварае гісторыю газэты ў фатаграфіях, і, разам з раней выдадзенай кнігай Г. Валкавыцкага "Віры", акуратна і нагляднна адлюстроўвае ўсю гісторыю газэты "Нівы".

Падчас перапынкаў і вакол паседжаньняў журналісты з магнітафонамі, тэлекамэрамі й простымі нататнікамі запісвалі дзясяткі розных інтэрвію. Прадстаўлялі яны і самую "Ніву", і беластоцкае радыё, і Радыё Рацыя, і беластоцкае тэлебачаньне.

Коратка, вяртаючыся ў Беларусь, павітаўся з прысутнымі Аляксандар Мілінкевіч з жонкай Інай Кулей.

Урачыстую частку правёў Юрка Ляшчынскі зь беларускай праграмы Радыё Беласток. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла павіншавала "Ніву" і ейных супрацоўнікаў і заклікала прысутных працаваць на ўтрыманьне незалежнасьці Беларусі. Сярод прысутных была вядомая дэпутатка Эўрапарлямэнту Барбара Кудрыцкая і кіраўнічка польскага тэлебачаньня Агнешка Рамашэўская. Прамаўлялі таксама віцэ-маршалак польскага Сойму, мясцовыя палітыкі й дзеячы.

У канцэртнай частцы выступілі вучні беларускіх школаў Беластоку з пастаноўкай "Цацачная крама", школьнікі Гайнаўкі зь песеннай групай "Зьнічкі". Ганна Кандрацюк выканала старадаўнія народныя сьпевы ад ракі Нарвы.

Галоўны рэдактар "Нівы" Яўген Вапа запрасіў усіх цяперашніх і былых супрацоўнікаў "Нівы" на сцэну, выказаў ім падзяку і ўручыў кожнаму падарунак на памяць. Адчувалася сяброўскасьць і салідарнасьць паміж пакаленьнямі былых і цяперашніх супрацоўнікаў беларускай газэты.

Беларускія дні "Нівы" скончыліся ўрачыстай вячэрай й рэстарацыі "Гродна" пры ўдзеле пары соцен прыхільнікаў газэты. Багатая і разнастайная беларуская кухня і свая беларуская аркестра пасьпяхова завяршылі гэтыя памятныя дні.

Наглядаючы збоку, належыцца высока ацаніць арганізацыйныя здольнасьці Яўгена Вапы разам з усімі, хто дапамагаў у відавочным сяброўскім духу ў наладжаньні такой пасьпяховай імпрэзы. Застаецца толькі пажадаць "Ніве" і наступным пакаленьням супрацоўнікаў памысна правесьці наступныя 50 гадоў.

**В. С.**

# Канфэрэнцыя ў Атаве

пра сучасную Беларусь, пра крах Савецкага Саюзу. Даклады таксама зрабілі, спн. Агата Вярбоўская-Мязга (Agata Wierzbowska-Miazga) з Варшаўскага ўнівэрсытэту, якая зьяўляецца аўтарам публікацый "Пост-камуністычная трансфармацыя ў Беларусі" і "Беларуская амаль рэвалюцыя", а таксама спн. Натальля Лешчанка (Natalia Leshchenko) з Лёнданскай школы экономікі, Вялікабрытанія, аўтар працы "Дзьве стратэгіі будаўніцтва нацыі ў пост-савецкай Беларусі (Нацыі і нацыяналізм)", апублікаванай у 2004 годзе.

У другой палове дня прайшла сэсія "Праблемы бясьпекі і беларуская палітыка: суадносіны з Расеяй, Еўрапейскім Зьвязам, ЗША і Канадай". Даклад на пачатку зрабіў сп. Ян Брэа (Yann Breault) з Квебэкскага ўнівэрсытэту, Мантрэаль, Канада, які працуе ў галіне ўзаемаадносінаў трох усходнеславянскіх нацыяў, аўтар артыкула "Трансфармацыя беларускай панславянскай ідэнтычнасьці". Затым выступіў прафэсар Робэрт Лэгвольд (Robert Legvold), з катэдры палітычных навук Калюмбійскага ўнівэрсытэту, ЗША, які займаецца праблемамі міжнародных адносінаў былых савецкіх дзяржаваў, уключаючы Беларусь і Украіну. Пасьля яго даклад зрабіў прафэсар Пітэр Рутланд (Peter Rutland) зь Віслейнскага ўнівэрсытэту, Канектыкут, ЗША, які займаецца расейскай замежнай і эканамічнай палітыкай.

Аўтары ўсіх дакладаў далі аналіз сытуацыі і зрабілі прагнозы што да далейшага развіцьця дэмакратыі ў Беларусі. У канфэрэнцыі прынялі ўдзел больш за 80 асобаў, працаўнікоў міністэрства, катэдры, унівэрсытэту і прадстаўнікоў беларускай дыяспары з Атавы й Таронта. Было шмат

# Беларусь за месяц

## Мясцовыя выбары

Выбары дэпутатаў мясцовых саветаў пройдуць па новым выбарчым заканадаўстве. Адпаведныя зьмены пачалі дзейнічаць ад 10 кастрычніка, калі Лукашэнка падпісаў указ аб прызначэньні мясцовых выбараў на 14 студзеня 2007 году. Выбарчая кампанія будзе каштаваць падаткаплатнікам 28,5 мільярда рублёў.

З гэтага часу сходы, якія ладзяцца па-за памяшканьнямі, мэтай якіх зьяўляецца выбарчая агітацыя, будуць аднесены да кампэтэнцыі закона "Аб масавых мерапрыемствах". Для арганізацыі сустрэчаў з выбарцамі кандыдату неабходна будзе атрымаць дазвол мясцовай выканаўчай і распарадчай улады. Разглядаць заяўкі кандыдатаў на праведзеньне сустрэчаў з выбарцамі яны абавязаныя не пазьней як за тры дні з моманту іх падачы. Сустрэчы з выбарцамі могуць адбывацца толькі ў адмыслова адведзеных месцах.

Закон забараяе выраблядь друкаваную агітацыйнай прадукцыі за межамі Беларусі. Закон пашырае кола суб'ектаў, якія могуць быць пакараныя за парушэньне выбарчага заканадаўства. Прыцягненьне ўдзельнікамі выбарчага працэсу замежнай дапамогі таксама будзе караціца скасаваньнем рэгістрацыі.

Законам з 10 да 5 дзён да выбараў скарачаецца тэрмін забароны на публікацыю ў СМІ апытаньняў грамадзкай думкі. Апрача таго, Выбарчы кодэкс і закон "Аб прэзідэнце Рэспублікі Беларусь" прыводзяцца ў адпаведнасць з новай рэдакцыяй Канстытуцыі. З іх выключаюцца палажэнні, што абмяжоўваюць двума тэрмінамі магчымасць займання пасады прэзідэнта адной і той-жа асобай.

У часцы праведзеньня мясцовых рэферэндумаў законапраектам забаронена выносіць на іх пытанні, урэгуляваныя заканадаўствам.

Выбары адрозна ад усіх папярэдніх пройдуць толькі ў адзін тур. Гэта значыць, што дэпутатам адразу стане той кандыдат, які набярэ ў сваёй акрузе найбольшую колькасць галасоў.

## Перасьлед моладзі

15 кастрычніка быў адпушчаны на волю зь Віцебскага ізалятару часовага ўтрымання сябра Маладога Фронту Павал Красоўскі. Яго пратрымалі 10 дзён па падазрэньні ў арганізацыі выбухаў 14-га і 22-га верасьня летась у Віцебску. Пазьней яго абвінавацілі таксама ў забойствах ды згвалтаваньнях непаўнагадовых дзяўчат. Максымальнае пакараньне, якое яму пагражала – пажыцьцёвае зьняволеньне або сьмяротная кара.



*Павал Красоўскі*

Афіцыйнае абвінавачаньне яму так і не аб'явілі і вымушаныя былі вызваліць па сканчэньні 10 сутак затрыманьня.

Павал Красоўскі адразу назваў падазрэньні сьледчых абсурднымі ды паказаў ім пашпарт, дзе было пазначана, што падчас леташніх віцебскіх выбухаў ён знаходзіўся ў Польшчы. Пасьля гэтага яго пачалі абвінавачваць у забойствах.

Павал думае, што сьледчыя ставілі нейкі экспэрымэнт, адпрацоўваючы новыя тэхналёгіі. Псыхалягічны прэсінг адчуваўся вельмі моцны. Вытрымаць яму дазволіла тое, што на волі была падтрымка.

Красоўскі знаходзіцца пад падпіскай пра нявыезд, і крымінальная справа супраць яго ня спыненая. Маладафронтавец не зьбіраецца спыняць сваю грамадзкую дзейнасьць і лічыць, што ў сьледства няма ніякіх доказаў яганай віны.

Актывісты "Маладога Фронту" сабралі 1273 подпісы людзей, якія гатовыя засьведчыць у судзе, што Зьміцер Дашкевіч не злачынца, а арганізацыя, якую ён узначальвае, не рыхтавала захопу ўлады. Многія з гэтых людзей зьбіраюцца 30 кастрычніка прыйсьці са сьвечкамі й партрэтамі Зьмітра да суду Кастрычніцкага раёну Менску, дзе пачнецца працэс над Дашкевічам. Яго будуць судзіць паводле артыкулу 193, часткі 1 Крымінальнага кодэксу — стварэньне ці ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі.

Цягам апошняга месяца сябры й паплечнікі Зьмітра зьвярталіся па дапамогу да амбасадаў краінаў Эўразьвязу ў Менску, у Эўракамісію і АБСЭ.

## Галадоўка пратэстантаў

Бестэрміновы пост-галадоўку ў будынку царквы пачалі 6 кастрычніка 16 вернікаў-пратэстантаў суполкі "Новае жыцьцё" зь Менску. Гэтак яны намагаюцца абараніць будынак, які, згодна з судовым рашэньнем, маюць вызваліць 9 кастрычніка. Вернікі лічаць, што наступным крокам уладаў стане ліквідацыя суполкі.

Суполка "Новае жыцьцё" налічвае больш за тысячу вернікаў. У будынку царквы плошчай 1600 кв. мэтраў дзейнічае нядзельная школа. Вернікі лічаць, што цяпер, калі іх фактычна пазбавілі юрыдычнага адрасу, улады могуць праз суд пачаць працэдуру ліквідацыі суполкі.

У 2002 годзе вернікі набылі на ўскрайку Менску былы калгасны кароўнік і адрамантавалі за свае грошы. Летась менскія ўлады забаранілі ладзіць там набажэнствы, а сёлета пералічылі на рахунак царквы каля 17 тысяч даляраў кампэнсацыі за будынак. За гэтыя грошы вернікі ня змогуць набыць нават аднапакаёвай кватэры.

Ад пачатку галадоўкі былі шпіталізаваныя 3 жанчыны-ўдзельніцы акцыі. Галадоўка доўжыцца ўжо больш за тры тыдні. 9 чалавек галадае і яшчэ каля сотні трымае пост на знак салідарнасьці зь імі.

## Мяжа з Эўразьвязам

Беларусь завяршыла фізічную дэмаркацыю межаў з краінамі Эўразьвязу. Пра гэта заявіў 3 кастрычніка старшыня Дзяржкамітэту памежных войскаў Беларусі Аляксандар Паўлоўскі. Гэтак завяршыўся сумесны праект Беларусі й Эўразьвязу ў межах праграмы TACIS — дэмаркацыя балтыйскага ўчастку дзяржаўнай мяжы Беларусі. Дакумэнты па канчатковую дэмаркацыю мяжы плянуецца падпісаць на пачатку наступнага году.

Працягласьць мяжы Беларусі з краінамі Балтыі складае каля 850 кілямэтраў: зь іх з Латвіяй — 170 кілямэтраў. На беларуска-летувіскай мяжы было ўсталявана каля 2 тысяч памежных слупкоў, а на беларуска-латвійскай — 425. Дэмаркацыя межаў пачалася амаль дзесяць гадоў таму і каштавала прыкладна 13 мільёнаў даляраў, зь іх болей за 4 мільёны даляраў даў бязвыплатна Эўразьвяз.

Мяжа Беларусі з Польшчай, амаль 400 кілямэтраў, была дэмаркаваная яшчэ за савецкім часам. Мяжа Беларусі з Украінай складае 1084 кілямэтры. Яе дэмаркацыя яшчэ не пачалася, паколькі беларускі бок дагэтуль не ратыфікаваў дамовы аб дзяржаўнай мяжы з Украінай, зьвязваючы гэтае пытаньне з пагашэньнем доўгу Украіны перад Беларусьсю, які паводле розных ацэнак складае ад 80 да 150 мільёнаў даляраў. Працягласьць беларуска-расейскай мяжы — 1283 кілямэтры, і цяпер ідуць перамовы аб яе дэлімітацыі (пазначэньні на мапах). Дэмаркацыя-ж у хуткім часе не плянуецца.

## Не Belorussia, a Belarus'

Экспэрты ААН па геаграфічных назвах прынялі рашэньне назвы беларускіх гарадоў, мястэчкаў, вёсак, рэк, азёраў на геаграфічных мапах пісаць лацінкаю, трансьлітаруючы зь беларускай формы. Так, рэкамэндуецца прытрымлівацца формы Belarus' (з апострафам, у гэтым выпадку паказальнікам мяккасьці), а не Belorussia ці, скажам, Weissrusland.

Расейцы, напрыклад, традыцыйна Беларусь называюць Белоруссией. І на мапах у розных краінах сьвету хто як хоча, так і пісаў. Тапанімічная камісія пры Савеце Міністраў, у складзе якой аўтарытэтныя мовазнаўцы, працягвала адстойваць напісаньне беларускіх назваў лацінкай паводле нацыянальных формаў.

## Сьпіс пашыраны

Сьпіс беларускіх службоўцаў, якім забаронены ўезд у Эўразьвяз, пашырыўся. Гэтым разам туды дадалі судзьдзяў і супрацоўнікаў пракуратуры: Аляксея Рыбакова, судзьдзю Маскоўскага раённага суду Менску, Сяргея Бортніка, супрацоўніка пракуратуры Маскоўскага раёну. Сяргей Бортнік выступаў у якасьці абвінаваўцы на працэсе над А. Казуліным. Аляксей Рыбакоў вынесіў прысуд.

Сьпіс папоўнілі таксама судзьдзя Цэнтральнага раённага суду Менску Леанід Ясіновіч і супрацоўнік пракуратуры Цэнтральнага раёну Андрэй Мігун, які выступаў абвінаваўцам у закрытым судзе над актывістамі арганізацыі "Партнэрства".

## Новы Старшыня СБП

22 кастрычніка ў Менску праходзіў 15 зьезд Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Галоўнай задачай гэтага чарговага, справаздачна-выбарчага мерапрыемства была захаваньне пісьменьніцкай арганізацыі пасьля яе высяленьня з Дому літаратара і стварэньня праўладнага Саюзу пісьменьнікаў Беларусі. Бальшынёй галасоў дэлегатаў, на пасаду старшыні Саюзу беларускіх пісьменьнікаў быў пераабраны Алесь Пашкевіч. Зьезд прыняў заявы ў падтрымку галадоўнікаў-пратэстантаў і Аляксандра Казуліна ды іншых палітзьняволеных.

На зьезд Саюзу беларускіх пісьменьнікаў сабралася 275 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Беларусі. Ён праходзіў у Менскім міжнародным адукацыйным цэнтры. У арэндзе залі Дому літаратараў і некалькіх іншых заляў Менску ўлады арганізатарам адмовілі.

Напярэдадні зьезду многія сябры Рады саюзу не былі пэўныя, што гэтае мерапрыемства зьбярэ кворум - больш за палову ад 494 сябраў Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Але яны былі прыемна зьдзіўленыя колькасьцю ўдзельнікаў. Удзельнікі зьезду казалі, што некаторым сябрам саюзу не раілі браць удзел у гэтым мерапрыемстве. І нават пагражалі рознымі санкцыямі. Але безвынікова.

## Мілінкевіча ўзнагародзілі

Эўрапарлямэнт абвесьціў лідэра дэмакратычных сілаў Беларусі, былога кандыдата на прэзыдэнта Аляксандра Мілінкевіча ляўрэатам прэміі імя вядомага праваабронцы Андрэя Сахарава за 2006 год. У тройку намінантаў, акрамя Мілінкевіча, увахозілі таксама былы кандыдат на прэзідэнта Калюмбіі Інгрыд Бэтанкур, ліванскі журналіст і дыплямат Гасан Туэні. Іх кандыдатуры папярэдне абралі сябры парлямэнцкіх камітэтаў у міжнародных справах і разьвіцьцю.

Прэмія імя А. Сахарава "За свабоду думкі" заснаваная Эўрапарлямэнтам у 1988 годзе. Яна прызначаецца штогод за "дасягненьні ў справе абароны правоў чалавека і яго асноўных свабодаў".

*Падрыхтавана па матар'ялах Радыё Свабода*

# І. Сурвілла ва Ў. Эўропе

*Заканчэньне з бачыны 2*

## Польшча-Варшава

Яшчэ перад Беларускімі днямі ў Беластоку Старшыня Рады БНР выступіла перад беларускімі студэнтамі, якія вучацца ў Польшчы. Прадставіў яе былы польскі амбасадар у Беларусі Марыюш Машкевіч, які цяпер працуе над праектам спадарожнікавага телевяшчання на Беларусь. Пытаньнямі транспарту займаўся варшаўскі журналіст Зьміцер Гурневіч.

Пасьля побыту ў Беластоку Івонка Сурвілла вярнулася 16-га кастрычніка ў Варшаву, дзе шэраг спатканьняў запланавала Ніна Баршчэўская, кіраўніца беларускай службы Радыё Паленія, польскага дзяржаўнага радыё для замежжа. На раніцу адбылося выступленьне перад студэнтамі катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту. Адбылося знаёмства з былым кіраўніком катэдры др. Аляксандрам Баршчэўскім і новым кіраўніком др. Міколаем Цімашуком, а таксама зь некалькімі прафэсарамі і выкладчыкамі.



*На здымку: Л. Міхалюк, Т. Казак, А. Мілінкевіч, І. Сурвілла, Х. Нюнька.*

Папаўдні было інтэрвію на Радыё Паленія і знаёмства з супрацоўнікамі беларускай службы гэтага радыё. Пазьней Старшыня Рады БНР была ганаровым госьцем на вечары паэзіі суседніх народаў, дзе ад беларусаў выступілі Алесь Барскі і ведамы перакладчык Часлаў Сенюх. Апошні аказаўся паходжаньнем зь Любчы, падчас апошняй вайны нават быў актыўным сябрам СБМ.

У Польшчы, наагул, куды Старшыня Рады БНР прыехала ўпяршыню, старанынямі прыхільнікаў было наладжана, апрача згаданых афіцыйных, таксама некалькі чыста сяброўскіх спатканьняў.

Падсумоўваючы ўсё двухтыднёвае падарожжа, Івонка Сурвілла была цалкам задаволеная вынікамі.

**В. СТАНКЕВІЧ**

# Наша падарожжа ў Беларусь

**Якой авіялініяй ляцець?** Адказ напрошваецца сам: польская (LOT) хоча $840, нямецкая (Lufthansa) – больш за 1300. Дык ці-ж вартая розьніца ў абслузе $400 зь нечым? Зрэшты, розьніцы ў камфорце вялікай і няма. Гэта выявілася ў выніку пазьнейшай неспадзяванай былтаніны: туды ляцелі на "Лёце", а назад, пачынаючы ад Варшавы (зь перасадкай у Франкфурце) – на "Люфтганзе".

Падарожжа гэтым разам было зьвязана ў мяне й жонкі Надзі ня толькі зь сямейнымі справамі, але й з адной ці не найважнейшай для нас культурна-грамадзкай падзеяй – прэзэнтацыяй ангельска-беларускага слоўніка, над якім цэлая група людзей працавала гадамі, ды які нарэшце пабачыў сьвет у менскім выдавецтве.

Правёўшы 16 дзён у гасьцях – пабыўшы ў Баранавічах і Міры, Жыткавічах, Тураве й Салігорску, зьведаўшы Менск зь ягонай манумэнтальнай Нацыянальнай бібліятэкай, наглядзеўшыся й наслухаўшыся самага align рознага – што можна адказаць на пытаньне: "Ну, і як там?" Ды так, як у таго менскага таксіста, у якога мы папыталіся: "Як жывём?" – "Ды не паміраем", – аказаў коратка. З дадаткам пасьля паўзы: "Вось калі-б можна было яшчэ крышку свабаднэй падзарабляць..." Яму, як і пераважнай бальшыні людзей, хацелася-б мець больш эканамічнай свабоды, вызваленьня ад усюдыснага падаткавага кантролю, удушлівага бюракратызму. Тым ня менш, той-жа таксіст, калі паехаў быў нядаўна ва Ўкраіну ды паглядзеў на тамашняе запусьценьне й бязладзьдзе (а падобнае й пра Расею расказваюць), дык падумаў сабе, што ў Беларусі можа яно й ненайгорш. Гэткія параўнаньні спрацоўваюць, бясспрэчна, на карысьць беларускага рэжыму. Праўда, людзі езьдзяць і ў Прыбалтыку ды ў Польшчу, дзе параўнаньні прыводзяць да адваротных высноваў.

Першае, што кідаецца ў вочы, калі прыяжджаеш з Амэрыкі, гэта адсутнасьць на вуліцах ажырэлых маладых і сярэдніх векам людзей. Беларуская моладзь спрэс танклявая й рослая, як тыя бярозкі з сасонкамі. Пры чым дзяўчаты сваёй туга абцягнутай і мініабрэзанай вопраткай перасягнулі галапупствам ці ня ўсіх сваіх іншаземных суперніц. Сэкс аж пырскае зь дзевак на менскіх вуліцах.

**Цэнтральная частка граду** чыстая, дагледжаная. Але ступі ўбок - і малюнак мяняецца. Нават мясьцінамі ў цэнтры – прыкладам, за Акадэміяй навук – паламаныя ходнікі, ямы й начная цемрадзь. Сталічнае паветра па беларускіх мерках лічыцца чыстым. Але наведніку з Амэрыкі лезе ў вочы ды ў нос смуга з шматлікіх яшчэ старых аўтобусаў, грузавікоў ды шмат якіх легкавушак. Праўда, транспартны парк гораду папаўняецца ўжо й новымі акуратнымі на выгляд аўтобусамі.

Неўзабаве сталіца зможа пахваліцца першым падземным трохпавярховым гандлёвым цэнтрам на плошчы Леніна. Там ужо часткова закончаны першы паверх з шыкоўнымі крамамі, разьлічанымі на людзей з кашальком.

**Тавараў у крамах поўна, але грошай у людзей мала.** Урадавая інфармацыя кажа, што 70% тавараў на паліцах – айчыннае вытворчасьці. Але, калі гэта праўда, дык дасягаецца такое цаной абмежаваньня канкурэнцыі, свабоднага выбару з боку прадаўца й пакупніка. Канкуруюць затое міжсобку вобласьці рэспублікі, патрабуючы ад магазыншчыкаў, каб прадавалі перш-наперш тавары мясцовага вырабу.

**Жыльлёвае будаўніцтва ў Менску** мае даволі шырокі размах. Куды ні глянь, высяцца будаўнічыя краны, рыштаваньні. Разам зь імі шуганулі ўгару й цэны на кватэры. Шмат нараканьняў чуваць ад жыльцоў на марудныя тэмпы рамонтных работаў.

**Менскае мэтро** працуе спраўна, але скразьнякі й шум колаў пры адкрытых вокнах даюцца ў знакі. Людзі рухаюцца подбегам, са сьпешкаю. Аднаго месца працы, відаць, замала, каб зьвесьці канцы з канцамі. Сярод пасажыраў вельмі рэдка пабачыш вясёлы твар. Кожны нечым заклапочаны. Надзя мне кажа: "Твар чалавека – як люстэрка..."

Заўважылася, што на вуліцах і ўздоўж дарогаў менш паліцыянтаў, даішнікаў. Улада імкнецца стварыць уражаньне цывілізаванага ладу.

**Прэзэнтацыя слоўніка** прайшла выдатна, але не без праблемаў, зьвязаных з пошукамі памешканьня, якія зваліліся на галаву (і ногі) самога выдаўца Зьміцера Коласа. Рэч у тым, што слоўнік, падрыхтаваны за межамі краіны, выйшаў у Коласавым прыватным выдавецтве. На прэзэнтацыю запрашаліся агульна ўсе, у тым ліку прадстаўнікі замежных амбасадаў. Адміністратары памешканьняў, баючыся прыкрасьцяў з боку ўладаў, адзін за адным адмаўлялі ў арэндзе залі. Нарэшце, на самым пярэдадні падзеі, дырэкцыя гарадзкое Пушкінскае бібліятэкі дала згоду.

Зыйшлося чалавек пад 120: выкладчыкі, студэнты, журналісты, пісьменьнікі ды проста зацікаўленыя асобы. Прыбыў таксама культурны аташэ амэрыканскай амбасады Джонатан Мур. Прамаўлялі коратка: выдавец сп. З. Колас, рэдактар слоўніка сп. Сяргей Шупа, сп. Джонатан Мур, дырэктар БІНіМ др. Вітаўт Кіпель, старшыня рэдкалегіі слоўніка Янка Запруднік.Пасьля выказваліся розныя асобы пра значэньне самога факту слоўніка (падобнага якому няма ў краіне), пра добрую якасьць публікацыі. Адбыўся традыцыйны фуршэт (пачастунак). Прысутныя маглі набыць па зьніжанай цане слоўнік, хоць на ўсіх ахвотнікаў не хапіла асобнікаў. Сябром рэдкалегіі давялося папрацаваць, падпісваючы набытыя людзьмі экзэмпляры.

**Выявілася адна несамавітая дэталь** беларускай аўтарытарнай улады. Аказваецца, ніякая бібліятэка ня можа набыць са свайго бюджэту кніжку, хоць сабе й самую "нявінную", якая выдадзеная прыватным (недзяржаўным) выдавецтвам. Падарунак такой кніжкі бібліятэка прыме (і то можа ня кожная), але купіць за свае грошы ня мае права. Вось адзін з мноства спосабаў, якімі ўрад кантралюе зьмест бібліятэчных фондаў. Вось яна, лукашэнкаўская "свабода слова". З гэтае прычыны і кніжныя крамы баяцца браць на продаж неафіцыйныя выданьні. Наш слоўнік тымчасам можна набыць у Менску толькі ў краме "Акадэмкніга", што на рагу вул. Сурганава й былога праспэкту Скарыны.

Нельга было прамінуць нагоду прыгледзецца да зладзенай сёлета ў карыстаньне **Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**, пра якую ходзяць розныя супярэчлівыя чуткі й ацэнкі. Дзьвюхгадзіннае азнаямленьне пакінула моцнае й дадатнае ўражаньне. На фасадзе 23-паверхавай будыніны і ўнутры яе беларускай мове адведзена належная ўвага. Калі наведнік адпаведна настаўлены, ён заўважыць пры ўваходзе выгравіраваныя заклік Францішка Багушэвіча ("На пакідаеце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі"), а таксама зваротку зь верша Янкі Купалы ("Ты зжылося з намі, бацькоўскае слоўца, як бы корань з дрэвам, як бы зь небам слонца") ды іншыя мудрыя словы, у тым ліку Францішка Скарыны, статуя якога высіцца тут-жа ля ўваходу. Беларуская мова ўсюды і ўнутры бібліятэкі на шыльдах ды тлумачальных надпісах. Багатае мастацкае афармленьне велічнага інтэр'еру зраблена на матывах нацыянальных сюжэтаў, фальклёрнага й гістарычнага характару. Усё гэта толькі падкрэсьлівае парадокс беларускае рэчаіснасьці – фасадны статус нацыянальнае мовы й функцыянальная роля расейскае.

Бібліятэка налічвае 19 чытальных заляў і 1850 чытацкіх месцаў. У параўнаньні з папярэднім будынкам штат працаўнікоў падвоіўся да 1400 асобаў. Палепшалі ўмовы працы бібліятэкараў. Прысьпешыўся тэмп абслугі чытачоў.

Дарэчы, у часе свайго падарожжа мы ўсюды карысталіся беларускай мовай і нідзе не адчулі варажнечы ад тых, да каго зьвярталіся. Раней такога адчуваньня не было. Гэта, можа, суб'ектыўнае ўражаньне, але ня выключана, што беларуская мова, як мова апазыцыі, сустракае большую прыхільнасьць у грамадзтве. Варта прыгадаць евангельскае выслоўе: "Хто ня супраць нас, той з намі" (Мк 9:40).

**Шмат увагі ўрад надае турыстычнаму бізнэсу** са зразумелым разьлікам на замежных наведнікаў. Адбудоўваюцца паступова цэнтры гарадоў, рэстаўруюцца палацы, архітэктурныя помнікі. Прыкладам, у Міры зь ягоным слаўтым замкам цэнтар аднаўлены ў сувязі з правядзеньнем пару гадоў таму сьвятам беларускага пісьменства. Каля замку адбываюцца цяпер канцэрты, тэатральныя паказы. Але прылеглыя да цэнтру бакавыя вуліцы, у тым ліку й мая колішняя Высокая вуліца (цяпер Кірава) гэтак і засталіся зь ямамі ды выбоінамі, якія аніяк не дадаюць да выгляду мястэчка. Бязумоўна, без завершанага ўпарадкаваньня мястэчка цяжка разьлічваць на ягоную аптымальную прываблівасьць.

**Новай архітэктурнай пэрлінай можа пахваліцца Івянец.** Разам са спн. Валянцінай Трыгубовіч і сп. Сяргеем Ляшэнкам мы наведалі мястэчка Івянец, дзе а. Віктар Перагудаў і ягоныя прыхаджане (зь перавагай жанчын і актыўным удзелам моладзі) завяршаюць будаўніцтва цудоўнай царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Стаіць яна ў самым цэнтры на месцы старажытнага праваслаўнага храму і глядзіцца, як архітэктурная выдатнасьць.Царква яшчэ не закончаная ўнутры, але ў сваёй ніжняй частцы мае прыгожа афармленую капліцу сьв. Міны Полацкага. Айцец Віктар спадзяецца, што ў жніўні наступнага году адбудзецца вялікая ўрачыстасьць высьвячэньня сьвятыні, аднаго з дынамічных асяродкаў беларускага праваслаўя.

**Яшчэ адзін бок беларускіх могілак** і сучаснай пахавальнай абрадавасьці адкрыўся нам у Жыткавічах. Маса сьвежых магіл, густа пакрытых вялізнымі штучнымі цёмна-зялёнымі вянкамі ды мора гэткіх-жа штучных зыркіх кветак, якія ляжаць там месяцамі, калі не гадамі. У сонечны дзень здаецца, што трапляеш не на могілкі, а ў нейкую кветкарню. Аж уваччу мігцідь. Шмат дзе ў сярэдзіне агароджаў стаяць столікі для памінальнай яды й пітва – гарэлкі, безь якое душы на тым сьвеце не пачуюць памінальнікаў.

**П'янства моладзі на вуліцах Менску ўразіла.** Піва прадаецца амаль у кожным кіёску, краме. І тут-жа расьпіваецца. П'юць хлапцы й дзяўчаты. Некаторыя зь літровымі бутэлькамі ў руках. Невялікія для адпадаў урны запоўненыя апарожненымі пасудзінамі ды абгорткамі ад закускі. Па вуліцы Леніна – там, дзе яна перасякае праспэкт Незалежнасьці – не разьмінуцца са спажыўцамі піўной брагі. Мінакам даводзіцца чуць і грубіянскія рэплікі. Брыдка глядзець і слухаць. Уладам, відаць, больш патрэбен збыт піва, чымся прыстойнасьць у публічных месцы.

**Нядаўна кінуты Лукашэнкам кліч абладжваць справы "ля аднаго акна"** (замест таго, каб абівацъ парогі па многіх канторах) да палепшаньня ня прывёў. У Жыткавічах, каб зарэгістравацца ў паліцыі, як гэтага ад нас патрабаваў закон, давялося стаяць ля трох вакон (або дзьвярэй), і ўсе з чэргамі. Паўдня страчана часу й патрапаных нэрваў. Праблема часткова ў тым, што ўсякая афіцый-

*Заканчэньне на бачыне 7*

# Наша падарожжа ў Беларусь

**Якой авіялініяй ляцець?** Адказ напрошваецца сам: польская (LOT) хоча $840, нямецкая (Lufthansa) – больш за 1300. Дык ці-ж вартая розьніца ў абслузе $400 зь нечым? Зрэшты, розьніцы ў камфорце вялікай і няма. Гэта выявілася ў выніку пазьнейшай неспадзяванай блытаніны: туды ляцелі на "Лёце", а назад, пачынаючы ад Варшавы (зь перасадкай у Франкфурце) – на "Люфтганзе".

Падарожжа гэтым разам было зьвязана ў мяне й жонкі Надзі ня толькі зь сямейнымі справамі, але й з адной ці не найважнейшай для нас культурна-грамадзкай падзеяй – прэзэнтацыяй ангельска-беларускага слоўніка, над якім цэлая група людзей працавала гадамі, ды які нарэшце пабачыў сьвет у менскім выдавецтве.

Правёўшы 16 дзён у гасьцях – пабыўшы ў Баранавічах і Міры, Жыткавічах, Тураве й Салігорску, зьведаўшы Менск зь ягонай манумэнтальнай Нацыянальнай бібліятэкай, наглядзеўшыся й наслухаўшыся самага рознага – што можна адказаць на пытаньне: "Ну, і як там?" Ды так, як у таго менскага таксіста, у якога мы папыталіся: "Як жывём?" – "Ды не паміраем", – аказаў коратка. З дадаткам пасьля паўзы: "Вось калі-б можна было яшчэ крышку свабадней падзарабляць..." Яму, як і пераважнай бальшыні людзей, хацелася-б мець больш эканамічнай свабоды, вызваленьня ад усюдыіснага падаткавага кантролю, удушлівага бюракратызму. Тым ня менш, той-жа таксіст, калі паехаў быў нядаўна ва Ўкраіну ды паглядзеў на тамашняе запусьценьне й бязладзьдзе (а падобнае й пра Расею расказваюць), дык падумаў сабе, што ў Беларусі можа яно й ненайгорш. Гэткія параўнаньні спрацоўваюць, бясспрэчна, на карысьць беларускага рэжыму. Праўда, людзі езьдзяць і ў Прыбалтыку ды ў Польшчу, дзе параўнаньні прыводзяць да адваротных высноваў.

Першае, што кідаецца ў вочы, калі прыяжджаеш з Амэрыкі, гэта адсутнасьць на вуліцах ажырэлых маладых і сярэдніх векам людзей. Беларуская моладзь спрэс танклявая й рослая, як тыя бярозкі з асонкамі. Пры чым дзяўчаты сваёй туга абцягнутай і мініабрэзанай вопраткай перасягнулі галапупствам ці ня ўсіх сваіх іншаземных суперніц. Сэкс аж пырскае зь дзевак на менскіх вуліцах.

**Цэнтральная частка граду** чыстая, дагледжаная. Але ступі ўбок - і малюнак мяняецца. Нават мясьцінамі ў цэнтры – прыкладам, за Акадэміяй навук – паламаныя ходнікі, ямы й начная цемрадзь. Сталічнае паветра па беларускіх мерках лічыцца чыстым. Але наведніку з Амэрыкі лезе ў вочы ды ў нос смуга з шматлікіх яшчэ старых аўтобусаў, грузавікоў ды шмат якіх легкавушак. Праўда, транспартны парк гораду папаўняецца ўжо й новымі акуратнымі на выгляд аўтобусамі.

Неўзабаве сталіца зможа пахваліцца першым падземным трохпавярховым гандлёвым цэнтрам на плошчы Леніна. Там ужо часткова закончаны першы паверх з шыкоўнымі крамамі, разьлічанымі на людзей з кашальком.

**Тавараў у крамах поўна, але грошай у людзей мала.** Урадавая інфармацыя кажа, што 70% тавараў на паліцах – айчыннае вытворчасьці. Але, калі гэта праўда, дык дасягаецца такое цаной абмежаваньня канкурэнцыі, свабоднага выбару з боку прадаўца й пакупніка. Канкуруюць затое міжсобку вобласьці рэспублікі, патрабуючы ад магазыншчыкаў, каб прадавалі перш-наперш тавары мясцовага вырабу.

**Жыльлёвае будаўніцтва ў Менску** мае даволі шырокі размах. Куды ні глянь, высяцца будаўнічыя краны, рыштаваньні. Разам зь імі шуганулі ўгару й цэны на кватэры. Шмат нараканьняў чуваць ад жыльцоў на марудныя тэмпы рамонтных работаў.

**Менскае мэтро** працуе спраўна, але скразьнякі й шум колаў пры адкрытых вокнах даюцца ў знакі. Людзі рухаюцца подбегам, са сьпешкаю. Аднаго месца працы, відаць, замала, каб зьвесьці канцы з канцамі. Сярод пасажыраў вельмі рэдка пабачыш вясёлы твар. Кожны нечым заклапочаны. Надзя мне кажа: "Твар чалавека – як люстэрка..."

Заўважылася, што на вуліцах і ўздоўж дарогаў менш паліцыянтаў, даішнікаў. Улада імкнецца стварыць уражаньне цывілізаванага ладу.

**Прэзэнтацыя слоўніка** прайшла выдатна, але не без праблемаў, зьвязаных з пошукамі памешканьня, якія зваліліся на галаву (і ногі) самога выдаўца Зьміцера Коласа. Рэч у тым, што слоўнік, падрыхтаваны за межамі краіны, выйшаў у Коласавым прыватным выдавецтве. На прэзэнтацыю запрашаліся агульна ўсе, у тым ліку прадстаўнікі замежных амбасадаў. Адміністратары памешканьняў, баючыся прыкрасьцяў з боку ўладаў, адзін за адным адмаўлялі ў арэндзе залі. Нарэшце, на самым пярэдадні падзеі, дырэкцыя гарадзкое Пушкінскае бібліятэкі дала згоду.

Зьішлося чалавек пад 120: выкладчыкі, студэнты, журналісты, пісьменьнікі ды проста зацікаўленыя асобы. Прыбыў таксама культурны аташэ амэрыканскай амбасады Джонатан Мур. Прамаўлялі коратка: выдавец сп. З. Колас, рэдактар слоўніка сп. Сяргей Шупа, сп. Джонатан Мур, дырэктар БІНіМ др. Вітаўт Кіпель, старшыня рэдкалегіі слоўніка Янка Запруднік.Пасьля выказваліся розныя асобы пра значэньне самога факту слоўніка (падобнага якому няма ў краіне), пра добрую якасьць публікацыі. Адбыўся традыцыйны фуршэт (пачастунак). Прысутныя маглі набыць па зьніжанай цане слоўнік, хоць на ўсіх ахвотнікаў не хапіла асобнікаў. Сябром рэдкалегіі давялося папрацаваць, падпісваючы набытыя людзьмі экзэмпляры.

**Выявілася адна несамавітая дэталь** беларускай аўтарытарнай улады. Аказваецца, ніякая бібліятэка ня можа набыць са свайго бюджэту кніжку, хоць сабе й самую "нявінную", якая выдадзеная прыватным (недзяржаўным) выдавецтвам. Падарунак такой кніжкі бібліятэтка прыме (і то можа ня кожная), але купіць за свае грошы ня мае права. Вось адзін з мноства спосабаў, якімі ўрад кантралюе зьмест бібліятэчных фондаў. Вось яна, лукашэнкаўская "свабода слова". З гэтае прычыны і кніжныя крамы баяцца браць на продаж неафіцыйныя выданьні. Наш слоўнік тымчасам можна набыць у Менску толькі ў краме "Акадэмкніга", што на рагу вул. Сурганава й былога праспэкту Скарыны.

Нельга было прамінуць нагоду прыгледзецца да здадзенай сёлета ў карыстаньне **Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**, пра якую ходзяць розныя супярэчлівыя чуткі й ацэнкі. Дзьвюхгадзіннае азнаямленьне пакінула моцнае й дадатнае ўражаньне. На фасадзе 23-паверхавай будыніны і ўнутры яе беларускай мове адведзена належная ўвага. Калі наведнік адпаведна настаўлены, ён заўважыць пры ўваходзе выгравіраваны заклік Францішка Багушэвіча ("На пакідаеце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі"), а таксама зваротку зь верша Янкі Купалы ("Ты зжылося з намі, бацькоўскае слоўца, як бы корань з дрэвам, як бы зь небам слонца") ды іншыя мудрыя словы, у тым ліку Францішка Скарыны, статуя якога высіцца тут-жа ля ўваходу. Беларуская мова ўсюды і ўнутры бібліятэкі на шыльдах ды тлумачальных надпісах. Багатае мастацкае афармленьне велічнага інтэр'еру зробленае на матывах нацыянальных сюжэтаў, фальклёрнага й гістарычнага характару. Усё гэта толькі падкрэсьлівае парадокс беларускае рэчаіснасьці – фасадны статус нацыянальнае мовы й функцыянальная роля расейскае.

Бібліятэка налічвае 19 чытальных заляў і 1850 чытацкіх месцаў. У параўнаньні з папярэднім будынкам штат працаўнікоў падвоіўся да 1400 асобаў. Палепшалі ўмовы працы бібліятэкараў. Прысьпешыўся тэмп абслугі чытачоў.

Дарэчы, у часе свайго падарожжа мы ўсюды карысталіся беларускай мовай і нідзе не адчулі варажнечы ад тых, да каго зьвярталіся. Раней такога адчуваньня не было. Гэта, можа, суб'ектыўнае ўражаньне, але ня выключана, што беларуская мова, як мова апазыцыі, сустракае большую прыхільнасьць у грамадзтве. Варта прыгадаць евангельскае выслоўе: "Хто ня супраць нас, той з намі" (Мк 9:40).

**Шмат увагі ўрад надае турыстычнаму бізнэсу** са зразумелым разьлікам на замежных наведнікаў. Адбудоўваюцца паступова цэнтры гарадоў, рэстаўруюцца палацы, архітэктурныя помнікі. Прыкладам, у Міры зь ягоным славутым замкам цэнтар аднаўлены ў сувязі з праведзеным пару гадоў таму сьвятам беларускага пісьменства. Каля замку адбываюцца цяпер канцэрты, тэатральныя паказы. Але прылеглыя да цэнтру бакавыя вуліцы, у тым ліку й мая колішняя Высокая вуліца (цяпер Кірава) гэтак і засталіся зь ямамі ды выбоінамі, якія аніяк не дадаюць да выгляду мястэчка. Бязумоўна, без завершанага ўпарадкаваньня мястэчка цяжка разьлічваць на ягоную аптымальную прываблівасьць.

**Новай архітэктурнай пэрлінай можа пахваліцца Івянец.** Разам са спн. Валянцінай Трыгубовіч і сп. Сяргеем Ляшэнкам мы наведалі мястэчка Івянец, дзе а. Віктар Перагудаў і ягоныя прыхаджане (зь перавагай жанчын і актыўным удзелам моладзі) завяршаюць будаўніцтва цудоўнай царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Стаіць яна ў самым цэнтры на месцы старажытнага праваслаўнага храму і глядзіцца, як архітэктурная выдатнасьць.Царква яшчэ не закончаная ўнутры, але ў сваёй ніжняй частцы мае прыгожа афармленую капліцу сьв. Міны Полацкага. Айцец Віктар спадзяецца, што ў жніўні наступнага году адбудзецца вялікая ўрачыстасьць высьвячэньня сьвятыні, аднаго з дынамічных асяродкаў беларускага праваслаўя.

**Яшчэ адзін бок беларускіх могілак** і сучаснае пахавальнае абрадавасьці адкрыўся нам у Жыткавічах. Маса сьвежых магіл, густа пакрытых вялізнымі штучнымі цёмна-зялёнымі вянкамі ды мора гэткіх-жа штучных зыркіх кветак, якія ляжаць там месяцамі, калі не гадамі. У сонечны дзень здаецца, што трапляеш не на могілкі, а ў нейкую квяцярню. Аж уваччу мігціць. Шмат дзе ў сярэдзіне агароджаў стаяць столікі для памінальнай яды й пітва – гарэлкі, безь якое душы на тым сьвеце не пачуюць памінальнікаў.

**П'янства моладзі на вуліцах Менску ўразіла.** Піва прадаецца амаль у кожным кіёску, краме. І тут-жа расьпіваецца. П'юць хлапцы й дзяўчаты. Некаторыя зь літровымі бутэлькамі ў руках. Нявялікія для адпадаў урны запоўненыя апарожненымі пасудзінамі ды абгорткамі ад закускі. Па вуліцы Леніна – там, дзе яна перасякае праспэкт Незалежнасьці – не разьмінуцца са спажыўцамі піўной брагі. Мінакам даводзіцца чуць і грубіянскія рэплікі. Брыдка глядзець і слухаць. Уладам, відаць, больш патрэбен збыт піва, чымся прыстойнасьць у публічным месцы.

**Нядаўна кінуты Лукашэнкам кліч абладжваць справы "ля аднаго акна"** (заміж таго, каб абіваць парогі па многіх кантарах) да палепшаньня ня прывёў. У Жыткавічах, каб зарэгістравацца ў паліцыі, як гэтага ад нас патрабаваў закон, давялося стаяць ля трох вакон (або дзьвярэй), і ўсе з чэргамі. Паўдня страчана часу й патрапаных нэрваў. Праблема часткова ў тым, што ўсякая афіцый-

*Заканчэньне на бачыне 7*




# Весткі й Паведамленьні

**ньюёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**

**Viestki j Paviedamlenni**

**Belarusan American Association, Inc.**

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: *www.baza-belarus.org* **№ 11 (490)**


# Кастрычніцкі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне 8 кастрычніка адбыўся чарговы сход Нью Ёркскага аддзелу БАЗА. Напачатку сходу старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка азнаёміў прысутных з падзеямі ў Беларусі за апошні месяц. У прыватнасьці ён закрануў перасьлед "Маладога Фронту" і працяг "газавага канфлікту" паміж кіраўніцтвам Беларусі й Расеі.

Затым з паведамленьнем пра гадавіну прыняцьця першага Статуту Вялікага Княства Літоўскага выступіў сакратар Парафіяльнай Рады Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага сп. Барыс Данілюк. Ён адзначыў, што 29 верасня 1529 году ўступіў у дзеяньне Статут Вялікага Княства Літоўскага (Першы Статут) – адзін з найвыдатных помнікаў эўрапейскай юрыдычнай думкі эпохі Рэнэсансу. Статут 1529 году паставіў нашую Бацькаўшчыну ў шэраг прававых дзяржаваў, яму належыць асноўная роля ў развіцьці старабеларускага (яго таксама называюць ліцьвінскім) грамадзтва ў 16-м стагодзьдзі й пазьней. Далейшае развіцьцё прававой дзяржавы падоўжылі Статуты 1566 й 1588 гадоў. Эўрапейская цывілізацыя грунтуецца на прызнаньні правоў і свабодаў асобы асноўнай каштоўнасьцю, і гісторыя права сьведчыць, што Беларусь належыць да эўрапейскай прасторы і разьвівалася, да расейскага кіраваньня, у адным кірунку з Эўропай. Наш Статут можна зраўнаць адно з славутай хартыяй Magna Carta або з Канстытуцыяй ЗША, яна вышэйшая за польскую Канстытуцыю 3 траўня. Безумоўна, дата 29 верасьня, ейны сымбалізм і важнасьць ёсьць ня меншыя, чым у сьвята 25 Сакавіка. Таму неабходна ўводзіць гэтую дату ў нашую традыцыю сьвяткаваньняў, больш гаварыць пра яе, падкрэсьліваючы пераемнасьць з часамі Вялікага Княства – старабеларускай дзяржавы, што насіла назоў "Літва", які пазьней быў скрадзены суседзямі-жмудзінамі.

Затым з аналізам падзеяў апошняга часу і сёнешняга становішча ў Беларусі перад прысутнымі выступіў Старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён адзначыў небясьпеку прэтэнзіяў, якія мае Расея на беларускую эканоміку, на нашую краіну. Расейскія аналітыкі, разглядаючы падзеі сакавіка 2006 году, прыйшлі да высновы, што нацыянальныя ідэі ёсьць толькі ў беларускай моладзі. Вось таму моладзь вырашылі запалохаць, пачысьціць "ад нацыяналістычнай заразы". Рэпрэсіі супраць моладзі носяць сыстэмны характар. Выпадкі з апошнімі арыштамі паказваюць, што выдумляецца і віна людзей, і цэлыя арганізацыі, так як у 1930-я сталіністы выдумалі т. зв. "Саюз вызваленьня Беларусі". Што датычыць нядаўніх выказваньняў Лукашэнкі і Пуціна наконт газу і саюзнай дзяржавы — гэта на самой справе заявы двух хаўрусьнікаў, што спрачаюцца за цела Беларусі. Гэта разборка паміж двума ГБ-шнымі мафійнымі структурамі. Лукашэнка, відаць, яшчэ марыць пра расейскі трон — і беларускі народ працягвае быць закладнікам Лукашэнкі, для якога жыцьцё і лёс беларускай нацыі важныя настолькі, наколькі яны ёсьць прыступкай да трону, ці разьменнай манэтай у барацьбе за трон. Між тым, як авантура Пуціна на Каўказе можа каштаваць мноства чалавечых жыцьцяў, авантура з "саюзнай дзяржавай" можа каштаваць усім нам суверэнітэту."

"Дзяржава, незалежнасьць — гэта рэчы прыярытэтныя, і тое, што ў дзяржаве сёньня дыктатура — ня так важна ў гэты момант. Бо калі мы не аб'яднаемся, калі страцім незалежнасьць — станем гноем гісторыі, па якім будуць таптацца бясконцыя "манголы". Так як войны Вялікага Княства з Масковіяй насілі цывілізацыйны характар, гэтак і сёнешняе зьнішчэньне этнасу праз культуру трэба ўспрымаць як змаганьне цывілізацыяў, раней — праз камунізм, што быў формай расейскага імпэрыялізму, сёньня — праз лукашэнкаўскі рэжым унутранай акупацыі. І ніхто так татальна не вынішчаў нас, як "брацкі народ", расейцы. Нават назоў наш зьнішчылі, як сёньня ўзгадаў сп. Данілюк. Дыямант, які валяўся пад нагамі — паднялі іншыя, паднялі жамойты. Да іх адыйшла і назва, і старадаўняя сталіца. Таму дзеля нахутчэйшай нашай кансалідацыі мусім інфармаваць пра мінуўшчыну, пра гісторыю краю, тлумачыць, абвяргаць фальшаваньні лукашысцкай ідэалёгіі. Спадчына Вялікага Княства мусіць быць запатрабаваная."

Затым перад прысутнымі выступіў сп. Вячка Станкевіч, кіраўнік кантактнай групы, якая працуе ў справе працягу дзеяньня Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі (БДА) праз ягоную рэаўтарызацыю ў Кангрэсе ЗША. Сп. Станкевіч паінфармаваў аб паездках і сустрэчах у Вашынгтоне і заклікаў прысутных зьвяртацца да сваіх кангрэсмэнаў у справе спонсарства Акту. Былі раздадзеныя прыкладныя ўзоры лістоў і распаўсюджвалася інфармацыя пра кантакты з кангрэсмэнамі.

Сп. Андрэй Чыж прачытаў ліст ад сп. Паўла Севярынца, што адбывае пакараньне ў Беларусі за сваю палітычную дзейнасьць і перакананьні, з падзякай за падтрымку і за збор подпісаў у абарону "Маладога Фронту". Сп. Андрэй Чыж паінфармаваў пра стварэньне сеціўнага сайту маладзёвай арганізацыі БАЗА – Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА), адрас якога ў сеціве: **http://www.zbma.net**

Затым сп. З. Пазьняк нагадаў пра адчыненьне выставы Юліі й Алеся Шатэрнікаў у Джэрзі Сыты.

Сп. Сяргей Капытка заклікаў моладзь больш актыўна браць удзел у таварыскіх імпрэзах, карыстаць з магчымасьцяў, у тым ліку з памяшканьня пры Саборы для імпрэзаў і проста калегаваньня, таварыскіх сустрэчаў.

**Віталь ЗАЙКА**

**Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА**
**Ахвяраваньні й складкі:**

| | |
|---|---|
| У. Бортнік .30 | А. Цыпес .30 |
| Г. Курніч .30 | Н. Шашкель .20 |
| Г. Пузач .30 | |
| Я. Сіманенка .30 | |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Нью Ёрскі аддзел БАЗА дасылайце на адрас:**
*Sergei Petrovich*
*115 Ave. S apt. 9*
*Brooklyn, NY 11223*
**Чэкі выпісвайце на** *Belarusan American Association.*

## Увага! Наступны сход

нью ёркскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **12 лістапада 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:
***401 Atlantic Avenue ў Брукліне***

Пачатак сходу апаўдні. Запрашаем усіх жадаючых. Даезд цягнікамі падземкі **A, C** да станцыі **Hoyt-Shermerhorn Street** або цягніком **F** да станцыі **Bergen Street**.

## Пэрсанальная выстава беларускіх мастакоў

У Нью-Ёрку, ў Музэі Расейскага Сучаснага Выяўленчага Мастацтва ў Джэрсі-Сіці, ад 8 да 22 кастрычніка 2006 году прайшла пэрсанальная выстава двух мастакоў зь Беларусі, Алеся Шатэрніка і ягонай дачкі Юліі.На выставе былі прадстаўленыя больш за паўсотні жывапісных палотнаў, якія ўвасабляюць харaство і прыгажосьць беларускага краю, а таксама цікавыя кампазыцыйна- каларыстычныя працы Юліі, выкананыя ў Нью-Джэрсі.

Алесь Шатэрнік ў Беларусі вядомы як скульптар, апошнія гады працуе ў галіне жывапісу. Па вызначэньні Аляксандара Глейзэра, дырэктара музэю, жывапіс беларускага мастака, можна аднесьці да напрамку "нэаімпрэсіянізму"...

***www.prauda.org***

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква Жыровіцкай Божай Маці у Гайленд Парку, Нью Джэрзі, запрашае вас на Запусныя Бліны **19-га лістапада** сёлета.

Бліны пачнуцца адразу пасля Святой Літургіі, прыблізна а 11:30. Удзельнікаў чакаюць смачныя стравы й багатая лятэрэя. Святая Літургія пачнеццца а 10-й раніцы. Запрашаюцца ўсе жадаючыя і на Літургію, і на бліны.

Адрас царквы: ***9 River Rd, Highland Park, NJ***
Тэлефон для даведак ***732-247-9173.***

*Даезд зь Нью Ёрку цягніком у кірунку Трэнтана, прыпынак Нью Брансўік. Прайсьці праз мост, царква знаходзіцца каля скрыжаваньня River Rd і Rariran Ave.*

Пасьля службы **5-га лістапада** адбудзецца малебен на беларускіх могілках у Іст Брансўіку з нагоды Дзядоў.

## Падарожжа ў Беларусь

*Заканчэньне з бачыны 4*

ныя плата ў Беларусі павінна выконвацца ў банку. Гэтак трымаецца кантроль над грашыма й падаткамі. Людзі плацяць у банку за самыя розныя паслугі (тэлефон, кватэра, розныя падаткі, якіх пороцьма, ды ўсё іншае). На плату кожнай паслугі трэба выпаўніць асобны дэтальна распрацаваны фармуляр. На сталох ляжаць спэцыяльныя даведнікі, у якіх людзі капаюцца, пакуль знойдуць патрэбны нумар дробналітарнага фармуляра. На тым сьляпым фармуляры мусіш павыпісваць адказы на цэлую кучу пытаньняў. Тады з фармулярам – у чаргу да вакна. Да аднаго з адной паперкай, да другога – з другой, каб атрымаць патрэбныя подпісы й пячаткі. Татальнае бюракратычнае ачмурэньне! Гэтак вось працуе жорсткі дзяржаўны кантроль цаной чалавечага часу, нэрваў і здароўя.

**Рэгістрацыя замежных наведнікаў у паліцыі** на працягу трох дзён па прыездзе ў Беларусь – адна з самых пракудных дэталяў побыту ў Беларусі. Гэта – паважная перашкода на шляху да павялічэньня турызму й стварэньня краіне патрэбнае рэклямы, або іміджу, кажучы папулярным цяпер словам.

**Ураджай лясных "дароў прыроды" сёлета багаты.** Мы прыехалі ў Беларусь 13-га верасьня, якраз пасьля цэлага месяца праліўных дажджоў у грыбную й ягадную пару. Замежныя закупнікі мелі сёлета добрыя прыбыткі ад вывазу грыбное й ягаднае сыравіны. Яблыкі ўрадзілі нагэтульні, што людзі ня ведаюць, што зь імі рабіць, бо перапрацаваць на сок ці іншыя вырабы краіна ня мае патэнцыялу.

Меў добрую нагоду пераканацца, што зьбіраньне журавінаў на палескім балоце – не такая простая рэч. Гэта – ня толькі праца, але адначасна й спрыт трыманьня раўнавагі, ступаючы з купіны на купіну. Крок ня так – і ты ляціш у багну пад сьмех навакольных зьбіральнікаў.

**Азнаямленьне зь беларускай мэдыцынай** пакінула сумнае ўражаньне. Мы з Надзяй мелі нагоду пабыць у менскай 5-й бальніцы, наведаць там маладую жанчыну-маці, якая мае вялікую праблему з пазваночнікам. Пра 5-ю бальніцу нам сказалі, што гэта адна зь лепшых. Але ўмовы, у якіх ляжаць пацыенты (некаторыя па восем-дзесяць у палаце) і як мізэрна яны забясьпечаныя дапаможнымі прыладамі й лекамі, сьведчаць пра цэлыя дзесяцігодзьдзі, што ляжаць паміж аховай здароўя ў Беларусі і ў Амэрыцы.

**Менскі аэрапорт** крыху "пабялеў", набыў весялейшага выгляду; шэрае цымэнтовае аблічча будыніны абцягнулі сьвялейшым матар'ялам. У пашыранай сярэдзіне тры ці чатыры прыстойныя крамы сувэніраў, гарэлкі й парфумэрыі. У сувязі зь нядаўнай забаронай браць вадкія рэчы на борт самалётаў далёкіх рэйсаў, продаж гэтага галоўнага тавару рэзка скараціўся.

Аэрапортаўскія туалеты далёка не заходняга стылю, але цяпер крыху акуратнейшыя, хоць папера – усё йшчэ ў дэфіцыце.

**Беларускае неба.** Некалі мастачка Тамара Стагановіч сказала мне, што беларускае неба мае сваю асаблівую прыгажосьць. Пра гэта мне ніколі не падумалася. А ў Тамары нават малюнак ёсьць, загалоўлены "Беларускае неба". Я пачаў прыглядацца і да таго малюнку, і да айчыннага неба, і запраўды зьвярнуў увагу на своеасаблівыя контуры ды разьмеркаваньне белых хмараў на сьветлым нябесным блакіце. Але што мяне наймацней уразіла ў беларусім небе, яшчэ зь дзён маленства, дык гэта ягонае багатае начна-зорыстае аблічча, якое ўлетку зіхоць-пераліваецца блескам далёкіх нябесных сьвяцілаў. Паўдзённаму небу ў Нью-Джэрзі далёка да тае таямнічае зыркасьці беларускага начнога паднябесься. Зь якой асалодай я ўглядаўся ў яго і тым разам, і так хацелася, каб гэты момант ніколі ня зьнік з маёй памяці.

*Янка ЗАПРУДНІК*

*Янка ЗАПРУДНІК*

## СКАЗАЎ БОГ БЕЛАРУСУ... (2)

*Да 100-годзьдзя "Нашай Нівы"*

1. І сказаў Бог беларусу: дзьве рэальнасьці пакладзены ў аснову Майго сьвету – чалавек і народ. Імі вымяраецца Мой лад на зямлі.
2. На шырокіх прасторах Майго валадарства Я стварыў мноства языкоў, і ніводзін зь іх ня лішні.
3. Гукі розных моваў мілыя Мне. Яны зьмяшчаюць у сабе сутнасьць Майго творчага акту, існасьць Мае творчае Свабоды.
4. Мова твая – паказальнік Мае прыхільнасьць да цябе. Шануй яе, як Мой сьвяты дар табе.
5. У мове тваёй закладзены гукі і хварбы зямлі, на якой ты жывеш. Мова твая – голас Мае прыроды.
6. Мовай сваёю ты будзеш услаўляць Мяне, каб прыймальнай была твая ўдзячнасьць Мне.
7. У аснову запавету пра шанаваньне прародзічаў Я паклаў перахоўваньне мовы продкаў, каб душы іхнія маглі спачываць спакойна.
8. Праз мову ты будзеш трымаць лучнасьць з прашчурамі да саракавога калена і глыбей у вякі. У мове – твая і тваіх нашчадкаў вечнасьць. Памятай пра гэта, узгадоўваючы дзяцей сваіх.
9. У цябе будуць цэлыя пакаленьні творцоў мовы, ахоўнікаў Маёй духовасьці. Гукамі мовы ты перадасі самыя глыбінныя пачуцьці свае несьмяротнае душы, самыя высокія ўзьлёты творчае думкі.
10. Па мове тваёй будуць пазнаваць цябе іншыя народы.
11. Творчасьць словамі, якія Я даю табе на зямны шлях, будзе сьведчаньнем тваё вернасьці Мне. За гэта Я ўзнагароджу цябе квітненьнем культуры і духовай сілаю ды павагай сярод усіх языкоў Маіх.
12. Як прадаўжальніку вечнасьці аднаго з Маіх народаў Я закладаю ў тваю душу адчуваньне волі, каб ты ніколі не забываўся, што мова – Свабоды аснова.

*Вычытана зь Біблії ў кастрычніку лета Божага 2006*

# Калі выданьне – падзея

Назоў гэтае зацемкі-паведамленьня цалкам-бы адпавядаў рэчаіснасьці, калі-б ня скрушная сытуацыя на Бацькаўшчыне. І не ў адной толькі ўладзе праблема: складаецца ўражаньне, што навукоўцы, пісьменьнікі, рэдактары, пусьціўшы кнігу ў сьвет, ня надта клапоцяцца аб пашырэньні вестак пра яе. І калі табе надорыцца прыпадкам дачуцца пра якое выданьне ці нават патрымаць яго ў руках, ты ня можаш даць веры, што аб гэтай Падзеі ня чуў раней, не чытаў у кожнай беларускай газэце.

Гэтым разам такіх выданьняў два.

Адно зь іх – трэці звод «Рымскага Міссалу», упершыню выдадзенага па-беларуску. «Рымскі Міссал» - асноўная літургічная кніга Сьвятой Імшы, дзе сабраныя усе законы, датычныя Імшы, каляндар сьвятаў, а таксама іншыя малітвы на ўсе дні літургічнага году.

Першыя міссалы зьявіліся ў IV стагодзьдзі. У 1570 годзе Трыдзенцкі Сабор прыняў агульны Міссал для усёй Заходняй Царквы. Пазьней Другі Ватыканскі Сабор (1962-1965) унёс у яго зьмены. І вось у 2003 годзе Сьвяты Пасад зацьвердзіў пераклад Міссалу ў беларускую мову, а ў верасьні 2004 году першы асобнік выданьня быў уручаны Папе Яну Паўлу II.

Гэтае выданьне ёсьць абавязковым для кожнага беларускага касьцёлу як на Бацькаўшчыне, гэтак і па-за еынымі межамі.

Другая кніга нечым роднасная; гэта выпуск №2 «Збору твораў» Міколы Равенскага. Рэдакцыйная калегія (а ў яе, акрамя іншых, уваходзяць Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік) ў невялічкай прадмове нагадвае, як у 2003 годзе намаганьнямі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды менскай «Беларускай Капэлы» пачалося ажыцьцяўленьне выданьня збору твораў кампазытара. І вось у 2005 годзе былі выдрукаваныя «Літургічныя творы», куды ўвайшлі «Літургія», «Паніхіда», асобныя малітвы, харавы канцэрт «Малое славаслоўе», а таксама пазалітургічныя творы рэлігійнага зьместу. У апошні разьдзел – з нотамі ды словамі – увайшлі «Магутны Божа» для зьмешанага й мужчынскага хораў, а таксама «О, Божа Ўсяўладны» і «Божа добры й ласкавы». Прысутнасьць «Магутнага Божа» ў выданьні (700 асобнікаў), да якога мае дачыненьне Міністэрства Культуры Беларусі – гэта не абы што, гэта маленькая, але істотная нашая агульная перамога!

У прадмове да зборніка прыводзіцца ўспамін Зоры Кіпель пра першае выкананьне малітвы на словы Натальлі Арсеньневай: «Увосені 1947 году гімн «Магутны Божа» быў выдрукаваны ў Парыжы. Беларускія Остэргофэнскія хоры, было іх два, царкоўны й сьвецкі, абодва пад кіраўніцтвам кампазытара Равенскага, развучвалі «Магутны Божа» недзе пад восень. Увосені 1947 году адбыўся тыдзень маленьня за Беларусь і беларускі народ. 27-га лістапада гэткія малебны служыліся ў лягеры Остэргофэн у праваслаўнай і каталіцкай цэрквах. Гэта было сапраўды экумэнічнае маленьне за Беларусь. Вось-жа на беларускай каталіцкай службе, у нямецкім касьцёле і прагучэў першы раз гімн «Магутны Божа», калі прысутныя беларусы, як каталікі, гэтак і праваслаўныя, у дружным хоры ўзьнесьлі свае малітвы».

Пра М.Равенскага тым часам няма асобнай манаграфіі, але нямала артыкулаў друкавалася ў нашай газэце (бібліяграфія зьмешчаная ў нядаўна выдрукаванай менскай кнізе ўспамінаў Барыса Рагулі пра Лювэнскіх студэнтаў).

Мікола Равенскі памёр у 1953 годзе Тады-ж ягоныя вучні – Зора й Вітаўт Кіпелі ды Янка Запруднік – пастанавілі сабраць і выдаць спадчыну кампазытара. Ладны час узяла тая праца, але й жніво багатае: побач з «Ангельска-беларускім слоўнікам» - два выпускі твораў Міколы Равенскага. Чытайма, сьпявайма, вывучайма! Дактарам Вітаўту Кіпелю й Янку Запрудніку, іхным памагатым (у першую чаргу трэба згадаць тут Віктара Скарабагатава) вялікі дзякуй, а сьв.пам. Зоры Кіпель – нашыя цёплыя ўспаміны пра Яе.

*Навум Г.*

# Сьв. пам. Архімандрыт Карп СТАР (1912 - 2006)



У суботу 7 кастрычніка 2006 году адбылося пахаваньне шматгадовага сьвятара БАПЦ высокадастойнага а. архімандрыта Карпа. Высьвечаны ў сьвятары БАПЦ у 1971 годзе, ён самаахвярна прынасіў духоўную апеку прыхаджанам цэркваў БАПЦ у Брукліне (Н. Ё.), Гайленд-Парку (Н. Дж.) і Дороты (Н. Дж.). Айцец Карп быў шчырым беларусам, адзначаўся глыбокай верай і працавітасьцяй як на царкоўнай, гэтак і сьвецкай ніве.

Сьв. пам. а. Карп нарадзіўся ў Віцебску. Прыбыў у Злучаныя Штаты ў 1951 годзе. Да 62-гадовага веку працаваў у фірме Догерты Брадзэрс (Dougherty Brothers) у ньюджэрзійскім гарадку Буэна.

Ён пакінуў па сабе: чатыры замужнія дачкі, Ніну з мужам Міраславам Нерадам, Зінаіду з мужам Ўолтэрам Ольсэнам, Соню з мужам Генадзем Грышчанковым і Валянціну з мужам Джозэфам Флянэры, сястру Марыю Занеўскую ў Горадні ў Беларусі, дзевяцёх унукаў і 15 праўнукаў, а таксама многіх пляменьнікаў і пляменьніц зь дзецьмі.

У царкве Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд Парку а. а. Вячаслаў і Пятро, а таксама а. Максім з Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Баўнд Бруку адслужылі літургію й адпяваньне. За памінальным сталом добрым словам пра яго падзяліліся а. Поль і старшыня парафіяльнай рады сп. Віктар Дубяга.

Пахаваны нябожчык на Троіцкім магільніку Расейскай (Зарубежнай) Праваслаўнай Царквы ў Джорданвіле (Н. Ё.), дзе спачыла шмат гадоў раней ягоная сьв. пам. матушка.

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

**Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**

*Шаноўныя сябры, дабразычліўцы й ахвярдаўцы!*

***Пасьля завяршэньня працы над вялікім ангельска-беларускім слоўнікам і выхадам яго з друку ў менскім выдавецтве Зьміцера Коласа, навуковая дасьледная дзейнасьць БІНіМу працягваецца далей. Да актыву Інстытуту далучаюцца маладзейшыя сябры. Рыхтуюцца да друку: 2-е дапоўненае выданьне твораў Юркі Віцьбіча, гісторыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, гісторыя Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, выпускі "Запісаў БІНіМ" (№31 і англамоўны №32), а таксама іншыя зборнікі й бібліяграфіі. Як і працягам мінулых 50 гадоў, для рэалізацыі БІНіМаўскіх плянаў патрэбная фінансавая дапамога з боку грамадзтва.***

**КАЛІ ЛАСКА, ПРЫСЫЛАЙЦЕ АХВЯРАВАНЬНІ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМу.**

***BINiM***
***330 Park St.***
***Haworth, NJ 07641***

***Выказваем шчырую падзяку за атрыманыя сёлета ахвяраваньні ад:***

***Антона Маркевіча – $250***
***др. Мацьвея Смаршчка – $200***
***Канстантына Ворта – $50***
***Кацярыны й Яраслава Вініцкіх – $150***
***Мікалая й Валерыі Сьнежкаў – $50***

# Шаноўныя чытачы!

Рэдакцыя "Беларуса" выдрукавала насьценны каляндар на ***2007*** год. Ён мае выгляд каляровага плякату памерам ***28 X 43 см*** (***11 X 17 цаляў***). Упрыгожаны ён здымкам сп. Сяргея Капыткі, зробленым на дэманстрацыі, якую ладзіла БАЗА на Мангэтане 19 сакавіка 2007 году ў дзень прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі.

**Усім, хто выпісваў газэту сёлета і падпісаўся на яе на 2007 год, каляндар будзе высланы бясплатна разам з наступным нумарам.**

Выданьне гэтага календара сталася магчымым дзякуючы ахвярнасьці падпісчыкаў газэты й яе ахвярадаўцаў. ***Вялікі ім дзякуй!*** Спадзяёмся на вашую падтрымку і ў будучым, каб друк календароў змог стаць нашым традыцыйным штогадовым праектам.




Тым, хто жадае набыць дадатковыя асобнікі календара альбо не зьяўляецца падпісчыкам газэты, можна замовіць іх па кошце **$5** за асобнік, даслаўшы аплату ў рэдакцыю. *Не забудзьце паведаміць дакладны адрас, куды трэба будзе дасылаць вашую замову.*

Пададзены кошт календара ўлучае і паштовую дасылку ў межах ЗША. Да кожнай замовы зь іншых краінаў дадайце, калі ласка, яшчэ **$2** (у Канаду **$1**).







***Шлю д-ру Янку ЗАПРУДНІКУ мае найшчырэйшыя пажаданьні й вітаньні з аказыі 80-х угодкаў з дня нараджэньня і замест віншавальнай карткі ахвярую газэце "Беларус" $100 на выдавецкі фонд. Сто год!***

***Антось МАРКЕВІЧ***



***Віншуем дарагіх Ксенію і Аляксандра з пабраньнем шлюбам! Сардэчна жадаем шчасьця, паразуменьня, добрых, разумных і прыгожых дзетак.***

***Мама і сябры***



***Віншуем дарагую Раісу Маславу з днём нараджэньня! Зычым весялосьці, усьмешак, посьпехаў у штодзённых справах і асабістым жыцьці.***

***Сябры й знаёмыя***



## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

Л. Касоўская ............. 100
А. Маркевіч ............... 100
К. Акула .................... 30
Ю. Бурнос .................. 30
А. Залугіна ................. 30
А. Лістоўская .............. 30
А. Матох .................... 30
Г. Пузач ..................... 30
Г. Сухоцкая ................. 30
Т. Чычэрына ................ 30
К. Шкуратава ............... 30
В. Яскевіч .................. 30
П. Грыгальчык .............. 15

**Заміж кветак на магілу Адольфа ГУБЭРТА:**

А. Мярляк ................ 100

**Усім шчыры дзякуй!**


**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

Выдае штомесячна:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***
Сусьветнае сеціва: ***baza-belarus.org***

Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

Published monthly by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***
Subscription $30 yearly
Make checks payable to ***BIELARUS***

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.



Адрас для допісаў і кантактаў:
***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
E-mail:
***hazetabielarus@att.net***
Сусьветнае сеціва:
***www.bielarus.org***


ISSN 1054-9455

Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэкламадаўца.